# КРЫНІЦА

№4 (14) Май, 2010 www.bchd.info




# Тры дэпутаты ад БХД

**Па выніках падліку галасоў на вечар 25 красавіка ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ў мясцовыя саветы абраныя тры дэпутаты.**

Дэпутатам Асіповіцкага райсавета стаў ветэрынар Аляксей Цюлькоў. У Прамысловай акрузе №22 Цюлькоў перамог намесніцу дырэктара камбіната бытавога абслугоўвання і супрацоўніцу таго ж КБА. Перамога ўжо была здабытая нават падчас датэрміновага галасавання, перавага ж у асноўны дзень выбараў была больш істотнай.

Настаўніца Жана Шчарбініна перамагла ў Аўсянкаўскай сельскай акрузе ў Горацкім раёне. Яна набрала 41%. Супернікам настаўніцы быў супрацоўнік мясцовага калгасу.

Дэпутатам Хідрынскага сельсавета ў Кобрынскім раёне стаў ваенны пенсіянер Віктар Бардзюг.

Каментуючы папярэднія вынікі 25 красавіка, лідэр БХД Павал Севярынец адзначыў:

«Канечне ж, выбарамі гэта назваць нельга. Па большасці акругаў былі зафіксаваныя дзесяткі нахабных парушэнняў. Усё выглядае такім чынам, што падчас датэрміновага галасавання адбыліся татальныя фальсіфікацыі. Мы можам гэта сцвярджаць, таму што ў дзень галасавання на мностве акругаў кандыдаты ад БХД альбо перамагалі, альбо былі ўпоравень з кандыдатамі ад улады».

# Альтэрантыўныя дэпутаты ад БХД

**Больш за сотню кандыдатаў ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, у якіх адабралі перамогу на выбарах, будуць працягваць працу са сваімі выбаршчыкамі. Пра гэта 27 красавіка заявіў сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі.**

«Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя адкрыта заяўляе сённяшнім уладам: ёсць прызначаныя дэпутаты, а ёсць рэальныя народныя дэпутаты, якіх абраў беларускі народ. Такіх дэпутатаў з ліку сяброў БХД больш за сотню. Усе гэтыя людзі стануць альтэрнатыўнымі дэпутатамі, яны будуць працягваць працу са сваімі выбаршчыкамі, з жыхарамі сваіх акругаў», - паведаміў сустаршыня БХД.

«Гэтыя людзі зробяць відавочным тое, што праўладныя дэпутаты турбуюца толькі пра інтарэсы беларускай улады ды свае асабістыя. На бліжэйшай Нацыянальнай радзе БХД будзе абмеркаваная стратэгія працы з гэтымі, сапраўднымі дэпутатамі, якія маюць рэальную падтрымку людзей».

Што тычыцца вынікаў выбарчай кампаніі, паводле Рымашэўскага БХД дзельнічала ў гэтай кампаніі яшчэ і дзеля таго, каб даказаць, што выбараў у Беларусі няма.

«Мы пацвердзілі сваю стратэгію не на словах, а на справах. Паўсюль, дзе вылучаліся нашы кандыдаты, мы праводзілі назіранне і можам канстатаваць, што адбылася татальная фальсіфікацыя выбараў», - сказаў Віталь Рымашэўскі.

# Вынік выбарчай кампаніі – 2010

**Самы галоўны вынік выбарчай кампаніі 2010 года для БХД – гэта не выбары, а паспяхова праведзеная палітычная кампанія па прыцягненні новых людзей.**

«Можна канстатаваць, што каля 1.100 новых сябраў і прыхільнікаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі далучыліся да нас падчас гэтай кампаніі. Рэжым атрымаў намаляваныя лічбы, а БХД атрымала рэальных людзей. І гэта галоўны вынік», - заявіў сустаршыня БХД Павал Севярынец.

Актывістамі БХД былі праведзеныя сотні пікетаў, сустрэчаў; дзесяткі тысячаў кватэраў пройдзеныя ад дзверы да дзверы. 28 тыс. 600 подпісаў былі сабраныя за кандыдатаў ад БХД; яшчэ некалькі тысяч подпісаў былі сабраныя кандыдатамі за вырашэнне мясцовых праблемаў, якія хвалююць людзей.

Больш за 200 мясцовых лідэраў выявіліся падчас гэтай мясцовай кампаніі, людзі, якія надалей будуць працаваць з грамадствам. БХД стала мацней. Відавочна, што ў большасці акругаў умацаваліся і сувязі з грамадствам, і сувязі з цэрквамі; сталі вядомымі людзі, якія могуць павесці за сабой незалежнае грамадства.

Як адзначыў Павал Севярынец, агітацыю БХД праводзіла і на тых акругах, дзе кандыдатаў ад партыі не зарэгістравалі. Там распаўсюджваліся ўлёткі з заклікам не прымаць удзел у гэтым фарсе пад назвай «выбары безальтэрнатыўнага кандыдата».

### БХД КАНСТАТУЕ: НІЯКІХ ВЫБАРАЎ НЕ БЫЛО

«Падводзячы вынікі сотняў зафіксаваных парушэнняў падчас выбарчай кампаніі, БХД канстатуе: ніякіх выбараў у красавіку 2010 году ў Беларусі не было», - кажа Севярынец.

Па-першае, сама кампанія ішла праз пастаянныя рэпрэсіі. Так, як паведамлялася раней, з 204 ініцыятыўных групаў БХД толькі 173 чалавекі змаглі падаць неабходныя дакументы і подпісы для рэгістрацыі кандыдатамі ў дэпутаты. Людзям пагражалі стратай працы, вучобы, ціснулі праз дзяцей, бацькоў, сваякоў.

Са 160 прапанаваных БХД сябраў у склад участковых камісіяў былі ўключаныя толькі сем чалавек.

Толькі 82 кандыдата ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі былі зарэгістраваныя. Яшчэ двух зарэгістравалі паводле скаргаў (Алег Малашчанка, Берасцейшчына і Рыгор Літвін, Менск).

«Фактычна па ўсіх выканкамах былі разасланыя «списки предполагаемых депутатов». Шмат хто папярэджваў кандыдатаў ад БХД, што не варта спадзявацца, нават калі будзеце перамагаць, не дапусцім, бо усё ўжо вырашана», – адзначае Павал Севярынец.

«Таму зноў можна сцвердзіць, што маніпуляцыі мэтанакіравана рыхтаваліся на тых участках, дзе вылучаліся кандыдаты ад БХД»

### БХД – ЛІДЭР СЯРОД ПАРТЫЯЎ

Яшчэ адным важным вынікам для Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі стала тое лідэрства, якое БХД атрымала падчас кампаніі. Калі браць у нацыянальным маштабе, партыя існуе толькі год, і яна выстаўляе шляхам збору подпісаў больш за ўсіх кандыдатаў.

### СТАНДАРТ БХД – МАКСІМАЛЬНАЯ АДКРЫТАСЦЬ

Лідэр БХД таксама звярнуў увагу журналістаў і на празрыстасць дзеянняў БХД: спіс кандыдатаў ад БХД быў размешчаны на афіцыйным сайце партыі (раздел «Выбары ў мясцовыя саветы»). Ніводная іншая партыя такіх звестак не прадаставіла. Гэта гаворыць пра стандарты працы, якія ставіць перад сабой Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя. І ў далейшым мы будзем прытрымлівацца такой лініі: максімальнай адкрытасці, масавасці і працы не для піяру, для людзей.

Сумленнасць – самае каштоўнае, што ўбачылі беларусы ў кандыдатах ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі

### ЛІДЭР БХД ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ ПАДЗЯЛІЎСЯ АСАБІСТЫМІ ЎРАЖАННЯМІ АД ПРАВЕДЗЕНАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ.

Для мяне асабіста самым важным вынікам быў той глыбокі водгук, які хрысціянска-дэмакратычныя ідэі выклікаюць у грамадстве. Я быў даверанай асобай у дзесяткаў кандыдатаў, аб'ехаў больш за 20 гарадоў з удзелам у агітацыі кандыдатаў ад БХД і проста быў уражаны тым, як успрымалі нашых кандыдатаў. Іх характэрызавалі такім чынам: «ведаем, прыстойны чалавек, ведаем, сумленны». Гэта – найлепшая, мне здаецца, кваліфікацыя для кандыдата ў дэпутаты сённяшняй Беларусі. Сумленнасць – самае каштоўнае, што ўбачылі беларусы ў кандыдатах ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі», - сказаў Павал Севярынец.






# У Менску прайшоў Чарнобыльскі шлях

**26 красавіка ў Менску прайшла акцыя «Чарнобыльскі шлях — 2010», прысвечаная 24-м угодкам катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Акцыя, як і заклікалі яе арганізатары — Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя – прайшла ў жалобным фармаце: ва ўдзельнікаў акцыі былі бел-чырвона-белыя сцягі з чорнымі стужкамі.**

У акцыі прынялі ўдзел ад тысячы да двух тысяч чалавек. У тым ліку сустаршыні БХД Павал Севярынец, Віталь Рымашэўскі, Аляксей Шэін і Георгій Дзмітрук, адказны сакратар партыі Дзяніс Садоўскі і дзесяткі іншых сябраў БХД.

Таксама прыйшлі лідэр »Маладога Фронту» Зміцер Дашкевіч, член-карэспандэнт Акадэміі навук, ліквідатар Іван Нікітчанка, старшыня БСДП (Народная Грамада) Мікалай Статкевіч, лідэр руху «Разам» Вячаслаў Сіўчык, пісьменнікі Уладзімір Някляеў і Генадзь Бураўкін, мастак Аляксей Марачкін, прадстаўнікі расейскай арганізацыі «Оборона».

Яшчэ адна асаблівасць сёлетняй акцыі: удзельнікі праходзілі на месца збору праз мэталашукальнікі. Усё падыходы да Акадэміі навук былі абгароджаныя турнікетамі і ўсталяванымі у дзвюх месцах па 3 рамкі мэталашукальнікаў. Каля кожнай рамкі — па 3-4 міліцыянты. Дагледалі кожнага, хто праходзіў, — асабісітыя рэчы, кішэні. Даглядалі таксама журналістаў, правяралі тэхніку. Гэта досыць марудная працэдура, аднак міліцыя заявіла, што пасля шляху праз такую ахову будуць праходзіць на ўсе наступныя акцыі апазіцыі.

Арганізатары ўсім ўдзельнікам акцыі раздавалі інфармацыйныя матэрыялы «Чарнобыльскі шлях — 2010». Там падаецца інфармацыя пра сённяшнюю акцыю, пра тое, як абараніць сябе ад радыяцыі, — за подпісам Івана Нікітчанкі і апазіцыйных палітыкаў, якія звяртаюцца да нацыі ў звязку з гадавінай чарнобыльскай трагедыі.

Напачатку мітынгу ля будынку прэзідыуму Акадэміі навук песні, прысвечаныя Чарнобылю, праспяваў знаны бард (і сябра БХД) Андрэй Мельнікаў.

Віталь Рымашэўскі падчас выступу заявіў аб пачатку нацыянальнай кампаніі па абароне беларусаў ад вымірання.

Як і планавалася, жалобнае шэсце вуліцамі горада **прайшло да Чарнобыльскай капліцы, дзе людзьмі паклалі кветкі, на іх - бел-чырвона-белы сцяг, запалілі свечкі. Пасля хвіліны маўчання Віталь Рымашэўскі прачытаў малітву. Людзі праспявалі гімн «Магутны Божа».**











# У Мастах прайшлі агітацыйныя пікеты кандыдатаў ад БХД

**11 і 12 красавіка чатыры кандыдаты ў дэпутаты Мастоўскага райсавету ад Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» правялі агітацыйныя пікеты.**




Сустрэчы з выбаршчыкамі Касцюкова Наталля, Краснапеўцаў Зміцер, Кухлей Зміцер і Шчэкарэвіч Уладзімір правялі ў розных частках Мастоў. Кандыдаты нарэшце атрымалі магчымасць паказацца на людзях, адказваць на пытанні мінакоў і раздаваць сваю друкаваную прадукцыю.

Дазвол на правядзенне пікетаў мастоўскія ўлады далі толькі пасля скаргі кандыдатаў у Цэнтрвыбаркам на рашэнне Мастоўскага выканкама аб вызначэнні месцаў для агітацыі. Актывісты былі абураныя тым, што кандыдаты толькі двух з 25 раённых выбарчых акругаў атрымалі магчымасць праводзіць выбарчую агітацыю шляхам сходаў, мітынгаў і пікетавання. Пасля разгледжання скаргаў, мастоўскім кандыдатам выдзелілі дадатковыя месцы для правядзення масавых мерапрыемстваў. Праўда, таксама не ў людных месцах.

# Евангельскі пікет з акардэонам

**22 красавіка ў Віцебску кандыдат ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Алена Шабуня правяла незвычайны перадвыбарчы пікет.**

Алена Шабуня балатуецца ў Віцебскі гарадскі і абласны Саветы дэпутатаў. Падчас пікету, што меў месца ў парку каля спартыўнага комплексу «Камсамолец», каманда кандыдата спявала песні хрысціянскага зместу пад акампанемент акардэона. Падыходзіла шмат людзей, абяцалі падтрымаць Алену Шабуню на выбарах, а некаторыя прызнаваліся, што ўжо аддалі за яе свой голас падчас датэрміновага галасавання.

Першая сустрэча з выбаршчыкамі кандыдата Шабуні таксама запомнілася жыхарам гораду. 18 красавіка перад грамадой у культурным цэнтры «Першамайскі» сустрэчы выступіла тэатральная трупа з Менску.




# Севярынец агітаваў у Асіповічах і Гомелі




**Лідэр БХД Павал Севярынец удзельнічаў у агітацыйнай кампаніі кандыдатаў у дэпутаты ад БХД Гомельшчыны і Магілёўшчыны.**

У Асіповічах Павал Севярынец узяў удзел у сустрэчы з выбаршчыкамі кандыдата ад БХД у Асіповіцкі райсавет Аляксея Цюлькова. Сустрэча адбылася ў палацы культуры чыгуначнікаў. Разам з выбаршчыкамі на яе прыйшлі міліцыянты, супрацоўнік мясцовага КДБ, дружыннікі, карэспандэнт мясцовай дзяржаўнай газеты, прадстаўніца ідэалагічнага аддзелу. Пасля сустрэчы разам з кандыдатам Севярынец прайшоўся ад дзверы да дзверы.

У Гомелі лідэр БХД прыняў удзел у супольным пікеце каманды кандыдатаў ад БХД. Нагадаем, тут ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі балатуюцца шэсць чалавек: Кастусь Жукоўскі, Яўген Якавенка, Андрэй Папоў, Алесь Шарыпаў, Святаслаў Шапавалаў і Алесь Яўсеенка.

Кампанія кандыдатаў у дэпутаты ад БХД у Гомелі праходзіць пад мэсыджам «Чыноўнікам не места у саветах!». Таму на пікеце выкарыстоўваюцца адмысловыя расцяжкі «Стоп дыктатура чыноўнікаў».

# Фальсіфікацыі на мясцовых выбарах

**Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя зафіксавала парушэнні, што адбываюцца падчас выбараў у мясцовыя саветы дэпутатаў.**

**Гомель.** Кандыдат у дэпутаты ад БХД у Гомельскі абласавет Кастусь Жукоўскі 24 красавіка папрасіў у выбарчым участку № 46 па Студэнцкай выбарчай акрузе пратакол датэрміновага галасавання. Спачатку сакратар камісіі казала, што не будзе яму нічога паказваць, а затым дастала пусты (!!!) бланк і сказала: «Зараз вам напішам». Па факце парушэння сакратаром камісіі выбарчага заканадаўства (пратакол галасавання ўвогуле не складаўся) Жукоўскі выклікаў міліцыянтаў. Тыя ехалі каля двух гадзінаў. А калі прыехалі, адзін з іх абразіў кандыдата, прапанаваўшы яму прайсці даследванне на наяўнасць алкаголю ў крыві. У выніку Жукоўскага абвінавацілі ў парушэнні грамадскага парадку на ўчастку. А 25 красавіка паступіў загад не пускаць Жукоўскага на выбарчыя ўчасткі сваёй акругі, хоць кандыдат мае права прысутнічаць там падчас выбараў.

**Слонім.** Кандыдат у дэпутаты ад БХД Барыс Кучынскі 24 і 25 сакавіка заяўляў, што на выбарчым участку № 16 па Фабрычнай выбарчай акрузе № 54 былі знятыя ягоныя плакаты, а пратакол галасавання быў вывешаны толькі пасля патрабавання Кучынскага.

На выбарчым участку № 2 агітацыйныя матэрыялы Кучынскага адсутнічалі, замест гэтага яны ўпакаваныя ляжалі ў кабінеце дырэктара. Таксама тут адмовіліся прадаставіць кандыдату спіс асобаў, якія выказаліся галасаваць па месцу жыхарства.




**Магілёў.** Кандыдат ад БХД Марыя Кульманава на адным з участкаў сваёй акругі схапіла за руку сябра камісіі, які выдаваў мясцоваму дворніку два ўжо запоўненыя бюлетэні на рукі.

**Менск.** На 27-м выбарчым участку па акурзе кандыдата ад БХД Любы Каменевай датэрмінова прагаласавала 93% выбаршчыкаў. Участак месціцца ў БНТУ, а канкурэнт Каменевай, дзеючы дэпутат Мікалай Чачукевіч працуе кіраўніком БРСМ у гэтым ўніверсітэце.

Таксама сябры БХД зафіксавалі дзясяткі выпадкаў, калі ў камісіях не давалі інфармацыю па датэрміновым галасаванні. Яшчэ дзясяткі выпадкаў, калі назіральнікам перашкаджаюць выконваць свае абавязкі. Гэта фіксавалася паўсюдна — пачынаючы ад Мастоў, дзе не далі прысутнічаць пры апячатванні скрыняў, і завяршаючы Бабруйскам, дзе на ўчастак № 8 проста не дапусцілі сябра ўчастковай камісіі.

# Неверагодны падлік галасоў



**Цэлых 35 галасоў двух з паловай тысяч выбаршчыкаў сваго ўчастка набраў адзін з самых актыўных у сталіцы кандыдатаў у дэпутаты Дзяніс Садоўскі згодна так званаму падліку галасоў выбарчай камісіі.**

Адказны сакратар Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Дзяніс Садоўскі балатаваўся па Каменнагорскай выбарчай акрузе № 32. Сваю моцную агітацыйную кампанію ён пачаў з мега-пікета каля супермаркету «На недельку», дзе было выстаўлена 15 плакатаў кандыдата. Толькі на адным пікеце з кандыдатам пазнаёмілася больш за тысячу выбаршчыкаў, а падобныя пікеты камандай Садоўскага праводзіліся напрацягу ўсяго перыяда дазволенай агітацыі. Апроч таго, вялася шырокая інфармацыйная кампанія знаёмства з грамадзянамі і прадстаўлення сваёй праграмы ад дзверы да дзверы.

Двойчы Дзяніса Садоўскага спрабавалі зняць з выбараў, але справа абмяжоўвалася вынясеннем папярэджанняў.

Аднак згодна так званаму падліку галасоў сябрамі выбарчай камісіі на 44-м участку Каменнагорскай выбарчай акругі Дзяніс Садоўскі набраў 1,4 адсотка галасоў.

«Нічога не бачна, нічога не чуваць апроч шэлясцення паперак... Камісія робіць выгляд падліку галасоў...», – каментуе «падлік» Дзяніс Садоўскі.

# ДВУ



*Вядучая «Двубою»*
*Ірына ГУБСКАЯ*

*25 красавіка адбыліся выбары ў мясцовыя саветы. Дэпутатамі абраныя 3 прадстаўнікі БХД. Але ці сапраўды дэпутат мае паўнамоцтвы для вырашэння пытанняў? Што можа зрабіць дэпутат, а што яму не пад сілу? І увогуле. можа кандыдат ці не?*

*Пра гэта сёння у рубрыцы «Двубой» паспрачаюцца дэпутат Мастоўскага райсавета 25 склікання* ***Зміцер Кухлей*** *і лідэр Ваўкавыскага БХД* ***Андрэй Кавальчук****.*



## Лідэр Мастоўскага БХД Зміцер Кухлей: «Адзін незалежны кандыдат можа больш чым увесь прызначаны савет разам!»

Я быў дэпутатам Мастоўскага райсавета 25 склікання. Як памятаеце, тады дэпутатамі мясцовых саветаў сталі 14 кандыдатаў па ўсей Беларусі. Зразумела, што ўлады не дапусцілі у адзін савет двух дэмакратычных актывістаў. Нават у адным раёне такое адшукаць цяжка.

Таму, калі я даведаўся пра сваю перамогу, гэта было для мяне і прыемнай нечаканасцю, і вялікай адказнасцю адначасова. Я адразу прыняў рашэнне, што зраблю ўсё дзеля таго, каб мая праграма передвыбачай кампаніі не засталася прыгожымі словамі, а сталася справай. Каб людзі паверылі ў тое, што мае словы – не пустыя абяцанкі.

Зразумела, што калі ты адзін дэмакратычны кандыдат на 30 праўладных прызначэнцаў, то вельмі цяжка канкураваць з такой колькасцю рук, якія заўседы прагаласуюць як трэба. Хачу адразу адзначыць: за час майго дэпутацтва я не раз выступаў на сесіях і некаторыя мае прапановы прымаліся! Канечне, тут нельга сніць сабе каляровыя сны пра тое, як вы нешта скажаце і усе па інэрцыі прагаласуюць «за». Не, такога не будзе. Калі пытанне «палітычнае» то зразумела, што яно не пройдзе. А калі пытанне датычыцца сацыяльнай тэматыкі кшталту дзіцячых пляцовак ці прыборкі двароў – усе цалкам магчыма!

Таксама кажу як дэпутат: працаваць можна і трэба. Па-першае, я прачытаў закон аб статусе дэпутата. Там, акрамя звыклых сесій, распавядаецца пра іншыя правы і абавязкі дэпутата. Такія рэчы як «запыты» і «звароты» я раней чуў, але як яны працуюць на практыцы, даведаўся менавіта з гэтага закона. Другое пытанне, што прызначэнцы ім не карыстаюцца, а толькі адсылаюць людзей падалей. Па-другое, дэпутат – гэта прадстаўнік народа, гэта значыць, што за яго плячыма стаяць людзі – выбарцы. Таму звароты дэпутатаў разглядаюцца ў першую чаргу. Самі разумееце: подпіс дэпутата – аўтаматычна падтрымка большасці жыхароў акругі, калі, канечне, дэпутат дзенічае ў іх інтарэсах.

За час сваей дэпутацкай кадэнцыі я накіраваў у розныя ворганы звыш 2300 запытаў, зрабіў сотні зваротаў, некалькі разоў прыходзілася выступаць на сесіях… Я поўнасцю выканаў сваю передвыбарчую праграму. І аўтамабільная стаянка, і добрая дзіцячая пляцоўка ў мікрараене з'явіліся. Дапамог сваім выбарцам і проста жыхарам Мастоў вярнуць заробкі на суму больш як 100 млрд. рублеў, а гэта для чалавека немалыя грошы, нават калі раздзяліць суму на усіх пакрыўджаных. Больш дробныя рэчы кшталту рамонту труб ці праблем у ЖСГ я ўжо не падлічу!

Зараз падыходзіць канец кадэнцыі. Для мяне час падвядзення вынікаў. Што зрабіў? Што не паспеў? Дзе трэба было зрабіць паіншаму? Зразумела, што ўлады пайдуць на ўсе, каб я не стаў дэпутатам у другі раз. Але выбаршчыкі вераць у мяне, яны не толькі на словах – на справе адчулі вынікі працы сапраўднага дэпутата. Нават людзі, якія жывуць на іншых акругах, звяртаюцца да мяне і абавязкова шукаю нейкія магчымасці дапамагчы. За каго будуць галасаваць выбарцы, калі ведаюць, што толькі я магу вырашыць іх праблему!

Трэба адзначыць што ў адрозненні ад прызначэнцаў сапраўдныя дэпутаты працуюць па-сапраўднаму. Калі у мяне за 3 гады больш за 2300 запытаў, то у «самазванцаў» ніводнага (!). Ёсць, праўда некалькі чалавек, якія за той жа перыяд зрабілі 2-3 запыты і ганарацца сваей «працай».

Па-мойму, гэта смешна! Проста прызначаным дэпутатам па-першае не цікава займацца праблемамі выбаршчыкаў, бо ім проста паказалі крэслы гэтыя, яны не змагаліся за іх, таму перамога гэтая для такіх дэпутатаў не перамога. Так, гульня. Чалавек жа, які здабываў перамогу праз уласныя мазалі, чалавек, які прайшоў сотні кіламетраў ад дзвераў да дзвераў, які мерз на пікетах, ніколі не кіне пачатай справы. Такому дэпутату перамога – падарунак, самы дарагі здабытак. І такі дэпутат зробіць усе, каб выканаць свае абавязкі перад выбарцамі.

Можа дэпутат ці не можа змяняць нешта – пытанне складанае. Адно магу сказаць дакладна: адзін незалежны кандыдат у сеняшніх умовах можа нашмат больш чым увесь прызначаны савет разам узяты!

# Б О Й

*Пераможцу вызначаеце Вы!*

*Вы можаце прагаласаваць за ўдзельніка, якога падтрымліваеце, праз тэлефон 8-029-5729484, sms, e-mail dvuboj@gmail.com ці пошту 220123, г. Мінск, а/с 324 (Проста пазначце прозвішча – за каго аддаеце Ваш голас)*



У мінулым «ДВУБОІ» **з вынікам 142:81 перамог прыхільнік удзелу ў перадвыбарчай кампаніі Юры Клімовіч**



### Лідэр Ваўкавыскага БХД

## Андрэй Кавальчук:

### «Які ўплыў, калі саветы не прымаюць рашэнняў!»

Я лічу, што дэпутаты мясцовых саветаў ніякага уплыву на рашэнні не маюць. Спытаецеся, чаму? Усе проста.

Па-першае, усе рашэнні ў нашай краіне, нажаль, прымае толькі адзін чалавек. Усе гэта вельмі добра ведаюць. А як інакш? Просты прыклад. Бабулька ў вёсачцы, якая знаходзіцца невядома дзе ў беларускай глыбінцы. Дык вось, зламаўся у гэтай бабулькі плот. Яна, бедная, адзінокая, ідзе шукаць праўды у бліжэйшы сельсавет. Ёй кажуць – грошай няма. Прабачце. Яна ідзе па «лесвіцы» райвыканкам-аблвыканкам... Адусюль адмовы – грошай няма і бюракратычныя перасылкі паміж ведамствамі. Усе гэта зацягваецца, цягам на месяцы і нават гады. Бабульцы нічога не застаецца як напісаць прэзідэнту... А там пытанні вырашаюцца хутка. Адно тэлефанванне і пытання няма.

Па-другое, рэальныя прадстаўнікі улады на месцах ніяк не саветы, а выканкамы, якія дэ-факта выконваюць функцыі і свае, і саветаўскія. У нас жа па усей краіне так і ва уладзе таксама так. Нямы парламент, які на пэўна лягчэй назваць інэртнай масай, адзіная іх рэальная функцыя – падымаць у час руку, калі скажуць. Такія ж нямыя мясовыя саветы, якія існуюць збольшага для галачкі. І калі у абласных і раенных саветах паседжанні збіраюцца хаця б для галачкі, што у сельсаветах часта дазваляюць сабе увогуле паседжанні не праводзіць. А навошта людзей ад працы адлучаць, ад спраў , калі і так усе вядома.

Таму калі раптам чалавеку выпала вялікае шчасце стаць дэпутатам, выкарыстаць гэтае становішча амаль немагмыма. Я не лічу дзейнасцю падняць руку супраць на сесіі. Усе роўна рашэнне будзе прынятае. Дакладней, пытанне вырашылі яшчэ задоўга да пачатку, а ўсе прапановы адхіляюцца. Што б там не казалі – гэта наша рэальнасць.

Канечне. Ёсць розныя звароты дэпутацкія, запыты. І па законе яны робяць дэпутата вялікім чыноўнікам, які сапраўды можа шмат. Але трэба памятаць, што мы ўжо 16 год жывем у краіне беззаконня! Дэпутацкая практыка тут – упэўнены – не стала выключэннем. Таму я лічу перамогу на выбарах у сенняшніх умовах перадусім перамогай над сабой, над сваім страхам. Гэта вашая перамога і перамога вашых выбаршчыкаў. Але атрыманне заветнага кандыдацкага пасведчання – гэта яшчэ не перамога.

Што рэальна можа зрабіць дэпутат савету? Для таго каб прыбраць пляцоўку ля дома, дастаткова сабраць некалькі энтузіястаў, якія пачнуць рабіць гэта проста так. Бо хочуць змяніць свой двор. Зрабіць яго больш утульным і чыстым. А астатнія падцягнуцца. Для таго, каб добра працаваў ЖКГ, патрэбна проста неабыякавыя людзі ў домаупраўленні. А для таго каб засфальтавалі дарогі, патрэбная сапраўды дапамога дэпутата. Але калі асфальтаванне дорогі не ўнесенае у дасланы «зверху» бюджэт, пішы – не пішы, падымай – не падымай пытанне – яно не вырашыцца. Мне падаецца, што збор подпісаў у такім выпадку можа даць больш эфект. Іх можна разаслаць па інстанцыях усіх узроўняў – так разбяруцца хутчэй. А дэпутат можа звярнуцца толькі у свой узровень.

Для таго, каб нашыя праблемы вырашаліся, патрэбная суполка з хаця б 5-7 энтузіастаў, якія могуць «паставіць на вушы». Якія могуць ісці да перамогі. Якія могуць «дастаць» мясцовых чыноўнікаў , каб тыя зразумелі, што адзіны спосаб іх спакойнага існавання – гэта вырашэнне тых пытанняў, якія перад імі ставіць грамадскасць. Такія людзі сапраўды вельмі каштоўныя, у тым ліку як патэнцыйныя лідэры і дэпутаты сапраўдных саветаў. Якія будуць бараніць інтарэсы жыхароў. Для якіх мандат не прыгожая чырвоная кніжачка, а сапраўды інструмант дапамогі людзям.

А пакуль, нажаль, нашыя саветы, як зрэшты і парламент – звычайная інэртная маса. Якая нічога не вырашае. Ні на што не уплывае. Кіруе ж ей усяго адзін чалавек.

# Аляксей Цюлькоў: «Галоўнае - не будзьце абыякавымі!»



**Дэпутат ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ў Асіповічскі райсавет, ветэрынар прадпрыемства «Белтрансгаз» АЛЯКСЕЙ ЦЮЛЬКОЎ распавядае пра сваё бачанне дэпутацтва.**

*«Я ніколі не адчуваў сябе нейкім асаблівым чалавекам, але здарыўся цуд - на наступны дзень пасля выбараў я прачнуўся знакамітым.*

*Я цалкам быў не гатовы да гэтай перамогі, рыхтаваў словы, якія скажу сваім выбаршчыкам пра фальсіфікацыі (бо ведаў, што за мяне галасавала пераважная большасць маіх выбаршчыкаў, пра гэта казалі абсалютна ўсе, хто мяне сустракаў). У той час, да выбараў, я прасіў Госпада: дазволь мне, Госпадзе, выканаць волю Тваю, дай мне сіл для гэтага, якой бы яна ні была... Але я зусім не чакаў, што Яго воля будзе такая...*

*Мяне віншавалі і віншуюць сябры і знаёмыя, знаёмыя знаёмых, супрацоўнікі, калегі, і цалкам незнаёмыя людзі. Як мне падалося, начальства на працы было здзіўленае, і не ведала, што рабіць са мной і з маёй перамогай. Аднак неўзабаве я пачуў усё ж шчырыя віншаванні і пажаданні. Заўсёды радасна бачыць, калі ў людзях адкрываюцца іх лепшыя рысы... Некаторыя мае супрацоўнікі, хто не верыў у магчымасць маёй перамогі, хто раіў адмовіцца ад барацьбы, раіў проста не высоўвацца, даведаўшыся пра перамогу, радуюцца як дзеці. Мне здаецца, у іх душах нешта адбываецца...*

*Зараз я прашу Госпада пра дзве рэчы: не стаць ганарлівым, спакойна прыняць маю публічнасць, і годна выканаць Яго волю, будучы дэпутатам - быць служкам сваім выбаршчыкам, аб'яднаць іх усіх, падарыць упэўненасць у тым, што мы можам перамагаць, дасягаць сваіх мэтаў, якімі б нерэальнымі яны ні падаваліся».*

**Што тычыцца бліжэйшых планаў у якасці дэпутата, то Аляксей Цюлькоў кажа наступнае:**

*«У самы бліжэйшы час я звярнуся да ўсіх сваіх выбаршчыкаў са словамі падзякі і раскажу ім яшчэ раз пра тое, што нас чакае, і што нам трэба зрабіць, каб пытанні, узнятыя падчас маёй перадвыбарчай кампаніі, мы змаглі разам вырашыць.*

*Я ведаю, што цяпер прыйшоў час не проста слоў, а менавіта спраў, і па тым, як словы будуць ўвасабляцца ў справы, будуць судзіць не толькі пра мяне, але і пра нашу партыю, пра ўсіх нас.*

*Людзі прызвычаіліся лічыць, што ад іх нічога ў гэтым жыцці не залежыць, што голас і меркаванне звычайнага чалавека не важныя і нікому не патрэбныя.*

*І перад сабой я стаўлю такую задачу - мае выбаршчыкі павінны паверыць у сябе, у нашых сэрцах павінен загарэцца агонь Веры, і ў іх не павінна застацца месца для страху. І тады мы разам зможам дамагчыся ўсяго, аб чым марым».*

**Даведка:** Аляксей Цюлькоў скончыў Віцебскую дзяржаўную акадэмію ветэрынарнай медыцыны па спецыяльнасці ветэрынарны ўрач. Жанаты, гадуе дваіх дзяцей.

# Жана Шчарбініна:
## У першую чаргу я буду казаць людзям пра Бога

**Дэпутат ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, абраная ў Аўсянкаўскі сельскі савет Горацкага раёна Магілёўскай вобласці, распавядае пра свае першапачатковыя планы дзеянняў.**



**ЖАНА ШЧАРБІНІНА**, настаўніца Аўсянкаўскай школы, як і амаль усе кандыдаты ў дэпутаты ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, сутыкнулася з праблемамі пасля свайго вылучэння. У выпадку спадарыні Жаны гэта было агрэсіўнае неразуменне з боку кіраўніцтва і калектыву школы пазіцыі Шчарбінінай, якая па сваёй ініцыятыве вырашыла балатавацца. Дырэктарка адкрыта абуралася рашэннем Шчарбінінай, усяляк намагалася перашкодзіць Жане, ачарніць яе добрае імя, а таксама загадала педкалектыву і нават бацькам дзяцей не галасаваць за яе.

*«Ну і, вядома, калі я перамагла, ніхто ў школе мяне не павіншаваў, – кажа Жана Шчарбініна. – Дырэктарка страшэнна незадаволеная, а калегі не віншуюць, таму што ў нас такая сістэма: паводзіны дыктуе начальства і рызыкоўна ісці насуперак. Але я на ўсё гэта стараюся не звяртаць увагі».*

Затое штодня віншуюць сваю дэпутатку суседзі, сябры, знаёмыя Жаны.

*«Шмат хто з іх мне казаў падчас збору подпісаў: не хочам мы галасаваць, не верым, бо колькі не звярталіся да гэтых дэпутатаў, нічога не вырашалася. А цяпер кажуць, што пачалі спадзявацца на нейкія змены».*

У аднавяскоўцаў Жаны Шчарбінінай ёсць надзея на вырашэнне сваіх праблемаў, бо яны дакладна ведаюць: іх дэпутат зробіць усё магчымае дзеля гэтага.

У першую чаргу Жана Шчарбініна будзе дамагацца вырашэння тых праблем, на якія больш за ўсё скардзяцца людзі. Сярод іх неякасная вада для піцця, неасветленыя вуліцы, мізэрная колькасць дзіцячых пляцовак, і, наадварот, вялікая колькасць незаасфальтаваных вуліц.

Жыхароў Аўсянкі (а гэта каля 2.000 чалавек) таксама вельмі хвалюе пытанне змены аўтобуснага руху ў адпаведнасці з патрэбамі людзей, кажа дэпутатка. Раніцай вельмі цяжка даехаць на працу ў райцэнтр Горкі, яшчэ большая праблема вечарам вярнуцца дадому.

*«Мы будзем звяртацца да раённых уладаў таксама з прапановай адкрыць у сельскай сталоўцы сучаснае кафе, дзе б маглі сабрацца і моладзь, і дарослыя, і годна правесці час і днём, і ўвечары».*

Аднак усё ж першапачатковымі для вырашэння хрысціянка Жана Шчарбініна лічыць праблемы маралі і духоўнасці.

*«Калі я буду сустракацца з людзьмі ў якасці дэпутата, у першую чаргу я буду казаць пра Бога. Я лічу, што вырашэнне бытавых праблем немагчыма без вырашэння такіх вострых сацыяльных праблем, асабліва актуальных для сельскай мясцовасці, як алкагалізм, гвалт у сям'і, разводы. А ключ у вырашэнні ўсіх гэтых праблем – духоўная чысціня», - кажа верніца-дэпутатка.*

Трэба адзначыць, што ў агітацыйнай кампаніі Шчарбінінай дапамагалі яе давераныя асобы – лідэр БХД Павал Севярынец і кіраўніца Магілёўскай абласной арганізацыі БХД Таісія Кабанчук, актывісты Руху «За свабоду» Ілля Заранок і Андрэй Юркоў.

**Даведка:** Жана Шчарбініна скончыла Полацкую педагагічную вучэльню і Віцебскі педагагічны інстытут. Мае дваіх дзяцей, адно з якіх – прыёмнае.

***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

*Сёння ў нашай традыцыйнай рубрыцы «ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ» мы прадстаўляем знакамітага беларускага паэта, аднаго з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры, выбітнага адраджэнца пачатку XX стагоддзя* ***Якуба Коласа***



# Якуб Колас



Якуб Колас, нароўні зь Янкам Купалам – заснавальнік сучаснай беларускай літаратуры. Яны абодва, нават народжаныя ў адным 1882 годзе, як Кірыла й Мяфодзій, заўжды стаяць поплеч: парай у альфабэце, побач у хрэстаматыях, дублем у сьвядомасьці. А сапраўднае прозьвішча Коласа – Міцкевіч – і эпічная веліч родняць яго зь яшчэ адным беларускім калосам – тым самым Міцкевічам.

У беларускай нацыянальнай ідэі Якуб Колас займае такое ж месца, як і ягоны вялізны чыгунны помнік у Менску. Якуб Каласальны ў кампазыцыі з партызанам Дзедам Талашом і юным геніем Сымонам-музыкам высіцца гарой на п’едэстале аднайменнае плошчы ў цэнтры сталіцы. Перад ім – галоўны ў Беларусі праспэкт Скарыны, насупраць – Дзяржаўная Філярмонія, леваруч – Нацыянальны Алімпійскі Камітэт, праваруч – знакаміты паліграфічны камбінат, таксама імя Якуба Коласа, дзе друкуюць ягоныя кнігі, і выставачная заля сучаснага мастацтва «На ростанях», а за плячыма – цэнтральны харчовы кірмаш краіны, Камароўка. Словам, уся энцыкляпэдыя народнага жыцьця.

Якуб Колас – найвялікшы працаўнік нашае літаратуры. Коласаўская проза й паэзія, манумэнтальныя і паводле зьместу, і паводле аб’ёмаў, выробленыя з руплівасьцю клясычнага беларускага кшталту.

Колас ствараў адну зь першых падпольных беларускіх школак. Настаўнічаў. Пісаў у «Нашу Ніву». Сядзеў у «Валадарцы».

Колас – знакавая зьява таго беларускага пісьменьніцтва, што вырасла з каранёў сялянскае нацыі, нашай нівы пачатку XX стагодзьдзя. Ягоныя буйныя й цэласныя творы, быццам кутнія камяні, складаюць падмурак вялікага вясковага эпасу Беларусі.

І кожны зь іх – фундамэнтальны архетып нацыянальнай ідэі.

«Казкі жыцьця», сьведчаньне нязбытнага ідэалізму беларускага сьветапогляду.

«Новая Зямля» (1911-1923 гг.), вершаваны шэдэўр з эвангельскай назвай, пра такія простыя, такія важныя й такія беларускія рэчы: сям’я, зямля, дзяцінства, праца, Радзіма. «Мой родны кут, як ты мне мілы!...»

«Сымон-музыка» (1911-1928 гг.), сымфонія сьпеўнае паэтычнасьці, поўная лірызму, жалю й любові – ключавых пачуцьцяў нашае мэнтальнасьці.

«Дрыгва», партызанская сага, прароча напісаная ў страшным 1933-м, у год пачатку масавых чыстак у СССР і прыходу да ўлады Гітлера – беларускі адказ усім акупантам.

Нарэшце, «На ростанях» (1923-1954 гг.), раман пра нацыянальны крыж скрыжаваньня паміж Захадам і Усходам, пакуты беларускай інтэлігентнасьці ў пошуках ідэнтычнасьці.

Якуб Колас, быццам біблійны Якуб-Ізраіль, бацька 12 каленаў, спарадзіў цэлую дынастыю твораў, заклаў падмуркі народу – і павёў яго да Новае Зямлі.

Да тае самае новае зямлі, дзе зерне Слова стала коласам «і ўрадзіла плод: адно ў 100 разоў, а тое ў шэсьцьдзесят, а тое ў трыццаць». (Мацьвея 13:8)

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*

# Хто стаў дэпутатам у Наваградку замест хрысціянскай дэмакраткі?

**Цікавыя вынікі мясцовых выбараў у Наваградку – у той час як кандыдат ад БХД Дар'я Бахар была абвінавачана ў сектанцтве (ва ўлётцы са станоўчай інфармацыяй пра яе канкурэнта ад улады Анатоля Марцінкевіча), дэпутацкі мандат атрымаў той самы Марцінкевіч, пра якога яшчэ ў 2003 годзе пісала газета Савета Міністраў Беларусі «Рэспубліка». Прычым пісала не пра шчырую дзейнасць на той момант кіраўніка прафілакторыя для алкаголікаў, а пра яго злоўжыванні на гэтай пасадзе.**




Зараз Анатолій Марцінкевіч з'яўляецца намеснікам дырэктара па ідэалагічнай і кадравай рабоце Навагарадскага завода газавай апаратуры. Як ужо паведамляў сайт «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі», напярэдадні выбараў у мясцовыя саветы ў Наваградку электарат пабачыў дзіўныя ўлёткі без выходных дадзеных.

Дар'я Бахар была адзіным альтэрнатыўным кандыдатам па Драздовіцкай акрузе № 6 у Наваградку. Як распавяла актывістка, падчас абыходу дамоў ейнай акругі аднаму з даверaных асобаў Дар'і, пастару царквы «Новае пакаленне» Уладзіміру Качагуру трапіла ў рукі незвычайная ўлётка-агітка. У ёй утрымлівалася інфармацыя пра двух кандыдатаў – станоўчая пра Анатоля Марцінкевіча, і адмоўная – пра альтэрнатыўнага кандыдата Дар'ю Бахар.

У агітцы было напісана, што Дар'я з'яўляецца членам незарэгістраванай партыі БХД і «адэптам» царквы «Новае пакаленне», выліты бруд на гэтую царкву, якая называецца не інакш, як «сектай».

Паводле Дар'і Бахар, інфармацыю пра яе адміністратыўныя правапарушэнні, якія ўзгадваюцца ва ўлётцы, «кандыдат» ніяк не мог ведаць, бо яны тычыліся не партыйнай дзейнасці Дар'і і мелі месца не ў Наваградку. Тады Дар'я не была сябрам БХД, працавала бухгалтарам.

Зазначым, што царква «Новае пакаленне» афіцыйна зарэгістравана ў Навагрaдскім райвыканкаме ў 1998 годзе і не з'яўляецца сектай.

Але вернемся да кандыдата ад улады, Анатоля Марцінкевіча, які на пачатку 2000-х кіраваў прафілакторыям, дзе прымусова лячыліся алкаголікі. І пра «метады» працы на шляху выпраўлення залежных ад этанолу людзей цяперашняга ідэалагічнага спецыяліста пісаў нават афіцыйны орган Савета Міністраў «Рэспубліка» ў артыкуле пад красамоўным загалоўкам «Под вывеской «право» немножко «налево».

Аказваецца, як пісала дзяржаўная газета яшчэ ў 2003 годзе, Анатоль Марцінкевіч выкарыстоўваў сваю пасаду дзеля правядзення сумнеўных фінансавых аперацый. Гэты артыкул, а таксама свае тлумачэнні да яго адразу пасля выбараў прынёс Дар'і Бахар былы супрацоўнік Марцінкевіча, які пажадаў быць неназваным. Паводле гэтага чалавека, цяперашні дэпутат быў пазбаўлены пасады начальніка прафілакторыя без права на пенсію. Але потым, як бачым, няблага ўладкаваўся на спачатку на ідэалагічным, а цяпер і на дэпутацкім полі. Цікава, як будзе сумяшчаць «народны выбраннік» свае фінансавыя прыхільнасці (за якія ледзь-ледзь не сеў на лаву падсудных) з клопатамі пра дабрабыт наваградцаў?







## Крыніца 83 гады таму
### Юрацішкі, Валожынскага пав.

17 ліпеня ў нас адбыліся выбары гміннае рады і войта. Выбары гміннае рады прайшлі добра. Найцікавей было з выбарамі войта. Малады шляхціц Пілецкі, каб пралезьці ў войты, не пашкадаваў кішэні – і такім чынам знайшоў шмат дурняў, якія за гарэлку прадалі сялянскія інтарэсы.

Насуперак гарачым пратэстам з боку некаторых сялян, усё-ж удалося Пілецкаму пралезьці ў войты, хоць і ашуканскім спосабам. Пілецкі - малады, ганарлівы шляхціц. Не любяць яго нашыя людзі і яго войтаўства будзе для нас вялікай балячкай.

З нашых жа людзей, добрых і любімых сялянствам, ніхто ў войты не трапіў, бо з'яўляўся абаронцам сялянскіх інтарэсаў, а не шляхецка-панскіх.

*«Bielaruskaja Krynica», №33, 12 жніўня 1927 года.*

*Падрыхтаваў Кастусь Шыталь*




# Творчы конкурс да 100-годдзя ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

**БХД і аб'яднанне літаратараў-хрысціянаў «Дабравест» абвяшчае паэтычны конкурс да 100-годдзя Ларысы Геніюш.**

***Мэты конкурсу:***

- яднанне прагрэсіўных творчых сіл на глебе дэмакратычных, хрысціянскіх і нацыянальных каштоўнасцяў;
- падтрымка таленавітай моладзі і адораных людзей з абласцей і раёнаў.

***Умовы:***

На конкурс прымаюцца вершы грамадскага гучання з выразнай пазіцыяй аўтара, з пашанай да гісторыі і традыцый народа, з клопатам пра экалогію душы і асяроддзя.

***Тэрміны:***

Конкурс праводзіцца з красавіка па чэрвень (уключна) 2010 года. Вынікі будуць падведзеныя да 1 жніўня г.г. Рукапісы можна дасылаць як у электронным выглядзе, так і на паперы з пазначэннем біяграфічных звестак, адрасу, тэлефона і іншых кантактаў аўтара.

***Нашы адрасы:***

- 220123, г. Мінск, а/с 324
- bielhrystkultura@gmail.com

***Уганараванне:***

Аўтары сямі лепшых вершаваных нізак атрымаюць памятныя прызы. Асобныя творы плануецца змясціць у альманаху «Дабравест».

Старшыня журы конкурсу – Павал Севярынец

Сакратар – Галіна Каржанеўская

**Чакаем вашых творчых прац!**



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 5160861 (Павал)**.

**Незалежнае інфармацыйнае выданьне**
**Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»**
**Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.**
**Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ**

**Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 7 мая 2010 г.**
**Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.**
**Распаўсюд бясплатны.**